 

# Сустракаем новы навучальны год

І не агледзіліся мы, як прайшло лета. Лета — гэта значыць для школьнікаў канікулы з усімі іх прыемнасцямі — лесам, ракою, сонцам, радасцю і заслужаным адпачынкам. Мільёны ўзрадаваных, загарэлых на сонцы і ветры дзяцей вяртаецца зноў за школьную парту. Сотні тысяч дзяцей у гэтым годзе першы раз пераступіць школьны парог.

У адным толькі Беластоцкім ваяводстве будзе вучыцца ў першых класах 27.340 дзяцей. Многа з іх спаткае вельмі мілая нечаканасць. У першым годзе вучобы, дзяржава ахвяравала ім цудоўныя падарункі ў выглядзе новых, ясных, прасторных школаў.

І так цешацца нашыя дзеткі новымі школамі ў Кнарыдах, Залессі, Яноўцы, Рагове, Ломжы, Кажэністым, Габовых Грондах, Беластоку, Ксэнках.

Здадзена ў карыстанне вялізны «Педагагічны камбінат» у Бельску - Падляскім. Адрамантавана 96 будынкаў. Ніхто не наракае на недахоп падручнікаў. Адным словам, створаны ўсе ўмовы, каб як найляпей вучыцца, каб як найбольш скарыстаць.

Хто адразу, ад пачатку навучальнага года шчыра і сумленна возмецца да вучобы — той не змарнуе часу.

Сустракаючы новы навучальны год рэдакцыя «Нівы» шле ўсім школьнікам самыя шчырыя і сардэчныя пажаданні, якнайлепшых поспехаў. Будзем наведваць школы, цікавіцца Вашым школьным жыццём і па меры магчымасцей памагаць у Вашых цяжкасцях.

Спадзяемся, што ўсе школы будуць нашымі супрацоўнікамі, будуць з намі дзяліцца сваімі радасцямі і дасягненнямі. Створым такую вялікую школьную сям'ю.

Р.



*Новапабудаваная школа ў вёсцы Кнарыды. Будзе ў ёй вучыцца 90 вучняў.*

*Фото — Рыбінскі*



*Закончана пабудова Педагагічнага ліцэя ў Бельску.*

*Фото — Рыбінскі*

## Не баяцца красць

Нашыя ўлады недастаткова востра караюць зладзеяў дзяржаўных грошай. Вось таму многа манко — амаль ва ўсіх ГС-ах і ПЗГС-ах. Людзі, якія працуюць у гандлёвай сетцы не баяцца красць. Нядаўна кіраўнік гасподы ў Дуброве грам. Кмець украў больш 60 тысяч зл і выехаў у невядомым кірунку.

М. Х.

## Дзве праблемы нацыянальнага характару беларусаў у заходніх тэрыторыях краіны

На пачатку ўрыўкі з лістаў. П. А. — Вроцлаў:

*«Што рабіць, каб захаваць сваю мову, культуру, свядомасць сваёй нацыянальнай самабытнасці, а таксама перадаць гэта сваім дзецям? Вось пытанне, якое глыбока непакоіць сэрцы і розумы больш свядомых тутэйшых беларусаў. «Ніва» і «Зорка» усяго гэтага не зробяць. Здаецца, што належала-б сарганізаваць тут гурток БГ-КТ. Думаю, што Галоўнае Праўленне БГ-КТ павінна аб гэтым падумаць».*

З. М. — Шчэцін: *«... У той дзень (4 сакавіка — дзень сарганізавання гуртка БГ-КТ у Шчэціне) я пачула родную мову і мне ўспомніліся дзіцячыя гады, у якіх мяне мая маці вучыла гаварыць па-беларуску.*

*Цяпер, я таксама хацела-б навучыцца пісаць і размаўляць па-беларуску, ды не ведаю, як гэта зрабіць. У нас трудна дастаць беларускіх кніжак. Стараюся пільна чытаць «Ніву».*

Голас жывых, адчуваючых людзей, лёсам кінутых у чужое асяроддзе, гаворыць за сябе.

Каб не прайсці моўчкі паўз людскіх галасоў, я хачу сказаць свае некаторыя думкі — прапановы. Мо' якраз дзе прыдадуцца і прымуцца.

Што да першага ўрыўка. Цалкам згодна, што патрэбен гурток БГ-КТ, абавязкова патрэбен!

Адносна захавання мовы, культуры, свядомасці нацыянальнай самабытнасці і перадачы ўсяго гэтага сваім дзецям, у гэтую вялікую і складаную праблему, я хацела-б унесці адну прапанову: там, дзе беларусы большай масай жывуць у пераважаючым польскім асяроддзі (прыкладна, у Вроцлаве), арганізаваць нядзельныя беларускія школкі для дзяцей і вечаровыя, ці таксама нядзельныя курсы для дарослых. У даны момант, я-б асабліва моцна хацела падкрэсліць карыснасць і магчымасць першага — беларускіх нядзельных школак для дзяцей, праграма якіх прадугледжвала-б здабыццё, у першую чаргу, элементарных ведаў з роднай мовы, літаратуры і гісторыі. Настаўнікамі ў такіх школках маглі-б быць не абавязкова настаўнікі, але людзі, якія любяць гэтую справу і лепш ці горш ведаюць мову, і былі-б здольны толькі з-за любоўі і ахвярнасці прыняць на сябе абавязак вучыць у такой школцы. А такія людзі, несумняваюся, — знойдуцца. Яны ёсць.

Зразумела, што ўзровень такой школкі (адно ці двухкласнай) не будзе раўняцца ўзроўню нармальнай, дзяржаўнай школы. Але лепш менш чым нічога.

Калі разыходзіцца аб практычнае прымяненне гэтай думкі, г. зн. ці існуе рэальная магчымасць арганізаваць такія школкі, дык я на гэта скажу, што з нядзельнымі школкамі я спатыкалася і здаецца, што асаблівых цяжкасцей у арганізаванні іх пры шчырай ахвоце не напатыкаецца. Групы людзей, не могучы ў дзяржаўнай школе вучыць сваіх дзяцей пэўным прадметам, сістэматычна, з пазітыўным рэзультатам вучаць іх у нядзельных школках. Колькасць вучняў тут не павінна адыгрываць рашаючай ролі. Добра закласці яе і для 5-ці вучняў.

І яшчэ некалькі слоў на другі ўрывак.

У Шчэціне справа на толькі лепшая, што ўжо ёсць гурток БГ-КТ. Гурток гэты, як правіла, павінен згуртаваць беларусаў і зацікавіць іх, а асабліва моладзь, культурна - асветнай працай у гуртку. У Шчэціне ёсць таксама многа украінцаў. Супрацоўніцтва з імі ў культурнай галіне існуе там і няхай развіваецца. Але праграма культурнай работы, добра было-б каб улічвала і беларускі матэрыял і рэпертуар.

Адносна асветнай дзейнасці гуртка ў Шчэціне. Добра было-б арганізаваць якія-небудзь курсы па вывучэнню роднага слова. Тады-б З. М. і ўсе ёй падобныя маглі-б навучыцца пісаць і размаўляць мовай свайго дзяцінства.

ВЕРА ЛЕУЧУК

## Патрэбна крыху дбайнасці

Пасля Беластока і Бельска выстаўка народнага мастацтва завандравала ў Семятычы, дзе таксама карыстаецца заслужаным зацікаўленнем з боку навакольнага насельніцтва.

Жаль толькі, што выстаўка сарганізаваная ў будынку Прэзідыума Павятовай рады адкрываецца толькі ад 11-ай гадзіны, а не раней, калі рух інтэрэсантаў ёсць найбольшы.

Варта, каб Аддзел БГ-КТ падумаў аб замене прамоклых афішаў, па якіх сапраўды цяжка дадумацца аб якую тут выстаўку разыходзіцца і дзе яна сарганізавана.

Р.

## Прыспяшыць апрацоўку бюджэтаў

Згодна з пастановай нашага Урада, усе Прэзідыумы рад нарадовых павінны апрацаваць свае бюджэты на 1958 год і злажыць у Міністэрстве фінансаў да 31 кастрычніка г. г.

Як мы даведаліся ад нашых карэспандэнтаў, апрацоўка бюджэтаў ідзе вельмі слаба. Прэзідыумы ПРН у Бельску і Гайнаўцы амаль яшчэ нічога не зрабілі.

(б. м.)

## Валынчык

У першай палове жніўня г. г. загінуў у хвалях Віслы Мікалай Валынчык — таленавіты акцёр беларускага паходжання. У час вайны праз пяць год выступаў ён на сцэне беларускага тэатра імя Янкі Купалы. Потым у Селецкім лагеры ўдзельнічае ў тэатры ўтвораным пры II дывізіі, з якой праходзіць увесь баёвы шлях.

Пасля вайны вяртаецца да Тэатра Польскага ў Варшаве, у якім выступаў да 1939 г. Затым працуе ў некалькі варшаўскіх тэатрах. У «Польскім» між іншым граў у першай паваеннай пастаноўцы гэтага тэатра — у «Лілі Венэдзе», затым у «Гамлеце». У «Тэатры паўшэхным» выступаў у «Мосце» Шаняўскага. Апошнія свае 3 ролі Валынчык граў у тэатры Земі Мазавецкай, гэта: селянін Thibaud у «Лекары міма волі» Мальера, камандзір стражы у «Многа шуму з нічога» Шэкспіра і Эстэбан у «Авечай крыніцы» Лопе дэ Вега. У новай п'есе рыхтаванай тэатрам Земі Мазавецкай — «Баладыне», меў граць караля Попеля.

«Адкрыў» Валынчыка перад вайною вялікі Астэрва і прыняў яго да свайго Інстытута Рэдуты. Валынчык — адзін з нямногіх, якія маглі ганарыцца з афіцыйнага дыплома аб заканчэнні гэтага Інстытута.

гісторыі, перад неабходнасцю развіцця соцыялізма, ужо сваёй назвай перш за ўсё маскіруюць увесь працэс падыходу да вырашэння гэтых вялікіх праблем. Потым, з другога боку, часцей усяго ў галаву не прыходзіць, што вялікае знахарства гэта кіраваць - адміністраваць з вузкага погляду, калі кіраўнік мае высокую дзяржаўную пасаду, але не мае галоўнага: — ведаў. Гэтае маскіраванае знахарства з'яўляецца не менш вялікай праблемай, чым якое-то ні было іншае знахарства і з гэтым трэба змагацца ў першую чаргу, каб знішчыць, прыпыніць прычыны зараджаючыя знахарства наогул.

Пытанне аб ініцыятыве культурна - асветнай працы не залежыць цалкам ад адміністравання «з гары», да гэтага павінны ўсе людзі добрай волі гуртавацца і з сканцэнтраванымі сіламі будаваць усю структуру працы. Небяспека весці гэтую працу не метадычна пагражае ад тых, што сядзяць «у гары» і не бачаць патрэб культурна - асветнай працы на грунце сучасных ведаў, а не знахарства, ці дагматычна аднабаковага штукарства, ці капіравання старога, непрыдатнага для будучыні. Трэба спыніць прадоўжванне знахарскіх практык, тых, якія «працуюць» метадамі цароў з казак: загадваць і чакаць, каб усё самацёкам ішло. Гэта стары метад у сістэме новага і ёсць самацёкавае знахарства нягледзячы на пекна выглядаючыя рэзалюцыі і лозунгі, маючыя каштоўны сэнс, як дэвіза, або сама праблема, але няма часта галоўнага: сродкаў для выканання, *упэўнена якасных сродкаў.*

У выніку ўсяго вышэй сказанага стаім сёння перад праблемай: як весці культурна - асветную працу?

### ПА-СТАРАМУ ЦІ ПА-НОВАМУ?

Новае, гэта не сляпое эксперыментаванне, але лагічна сканструяваная метадычнасць усёй культурна - асветнай працы, згодна з патрэбамі сёняшняга дня. Такія патрэбы, гэта перш за ўсё прабуджэнне зацікаўленасці ўсяго народа да пытанняў быту з навуковым падыходам. Трэба весці паслядоўна працу лагічна канцэпцыйную ў напрамку цэлага камплексу быту. Усе патрэбы прафілактычнага выхавання чалавека з ранейшага ўзросту, а таксама і патрэбы педагагічнага выхавання чалавека павінны абслугоўваць *толькі навукова - рэканструяваныя рэчы,* а не рэчы прадукцыі камерсіянальнага стандарту. У краіне будуючай соцыялізм, трэба кожнаму ў сваёй дзейнасці ведаць, што нашы вырабы не для капіталізма — з адпаведнай якасцю толькі для гандлю, дзе ўсё паводле рэкламы ды на ашуканстве, каб толькі гандлярства красавала. Трэба памятаць, што Вялікі Ленін сказаў: — *Быт акрэслівае свядомасць.*

З гэтага боку і павінен быць падыход да культурна - рэвалюцыйнага будаўніцтва, бо ў гэтай ленінскай думцы ляжыць усё найвялікшае да глыбінь існавання ўсяго будучага чалавецтва. Гэта думка гаворыць аб якасных патрэбах і толькі *ад вышэйшай якасці ўсяго, што будуем залежыць будучыня.*

*Соцыялізм — гэта навуковае будаўніцтва жыцця на падставе сапраўднага гуманізму.*

Мы стаім перад культурнай рэволюцыяй, якая не створыцца ў кароткі перыяд. І толькі хуткасць развіцця гэтай рэволюцыі залежыць ад гэтага, як падрыхтуюцца сілы і якой перадавой псіхалогіяй яны будуць аснашчаны. *Якасць гэтых людзей — гэта будучая якасць жыцця і ўсіх магчымасцей ва ўсіх гаспадарча - эканамічных напрамках* — бо калі ставіць пытанне — што найважнейшае з таго: цяжкая індустрыя, ці лёгкая, дык на гэтае пытанне адказваць будзе не лагічным без галоўнага. Адыход з мінулага без пераробкі ўсёй псіхікі чалавека не магчымы, патрэбна пераробка ўсяго абсталявання абкружаючага чалавека новым, творчым, навукова абгрунтаваным. З гэтага вынікае патрэбнасць гарманічнага развіцця ўсяго і ўсіх сродкаў пабудовы будучыні. Трэба адначасна і толькі адначасна з развіццём індустрыі будаваць новую культуру — псіхалогію соцыялізма.

Добра было-б пастунова і планава арганізаваць згуртаванне пытанняў быту спачатку ў прафілактычна - даследчую, эксперыментальна-мадэльную майстэрню ўсіх рэчаў аховы маці і дзіцяці, якая працавала-б у кантакце з медыцынскімі, і вытворчымі, і іншымі ўстановамі. Гэтак быў-бы зроблены першы рашучы крок да ўгрунтавання будучага інстытута соцыялістычнага быту, бо лагічна, на раду з узростам дзяцей, пастунова паўстаюць чарговыя пытанні падрыхтоўкі мадэляў педагагічнага і хатняга абсталявання і далейшых грамадскіх комунальных установаў.

У гэту навукова - канструктыўную працу ўваходзіць і архітэктурнае будынкавае праектаванне. Добра было-б праводзіць адукацыйную, лекцыйную і семінарыйна - гуртковую працу сярод працаўнікоў культуры аб пытаннях рэканструкцыі быту, каб потым вынікі гэтай працы мець магчымасць перанесці ў школы і да шырэйшага грамадства ва ўсе галіны культурна - асветнай дзейнасці.

Мы павінны вывучаць усе памылкі апошніх і ранейшых часоў у культурна - асветнай працы, каб зноў не рабіць іх.

А. ВАЛО



 

# ГРАБАРКА

Будзённым днём ці нядзеляй едучу поездам у напрамку Семятыч нават і не заўважыш ля новага прыпынку Сычы



...голымі каленьмі паўзуць жанчыны і складаюць ахвяры...

невялічкага ўзгорка з высокімі соснамі, якія не хіляцца, як звычайна ўсе дрэвы на поўдзень, але ў сярэдзіну ўзгорка, абымаючы гэтакім чынам невялічкую драўляную каплічку.

Раз у год, у палове жніўня, на праваслаўнае свята Праабражэнне Гасподняе, збіраецца там каля 10.000 людзей, амаль з цэлае Польшчы.

Гісторыя гэтай фэставай мясціны сягае 1710 года, калі ў тым часе на Падляшы, а асабліва ў Семятычах шырылася халера.

Паводле легенды, адзін старычына меў сон, што ўратавацца ад смерці можна толькі ў адным месцы непадалёк вёскі Грабарка.

Свяшчэннік прызнаў гэты сон цудоўным і з людзьмі, якія засталіся, пасяліўся на тым узгорку парослым сасновым лесам у падножжа якога працякае ручаёк.

Калі людзі даведаліся пра такое месца, дзе не дастае зараза, прыбывалі штораз больш і пабудавалі там каплічку пад



— Белы ў торбу, а ты чорны — у горбу...

званнем Гасподняга Праабражэння, якая стаіць па сённяшні дзень.

У падножжа Грабаркі фэст прадстаўляецца быццам звычайны кірмаш. Яблыкі і грушы, слівы і памідоры памешаны з цукеркамі, свісткамі, грэбенямі і рознымі іншымі «цудоўнасцямі».

Далей грамада людзей так нешта абступіла, што цяжка і дастацца, каб паглядзець. Гэта Варшаўскія «пяцімінутовыя фатографы». Неадлучныя прадпрыемцы ўсіх кірмашоў і фэстаў. З Грабаркі за адныя толькі 15 зл. можна прывезці фатаграфію ў самалёце, ці ля Палаца Культуры і Навукі.

Падыходзячы вышэй, вобраз становіцца болей фэставы. Тут пачынаецца царства жабракоў усялякага асартыменту, пераважна, ужо крыху падхмяліўшыхся. Бачаць гэта кабеты, але цяжка не даць «дзеду» за царства нябеснае нашых сваякоў, або і знаёмых. Сёй-той адкруціць кусок каўбасы, хлеба ці пірага, а потым яшчэ падумаўшы і гледзячы, што стаіць чалавек без нагі,



Горач, гук пішчалак і манатонны спеў жабракоў — ўсё гэта схіліла да сну старэнькіх бабулькаў...

уткне ў руку залатоўку або і дзве.

Наўкол, з выключэннем самалёта, усе сродкі лакамоцыі, веласіпеды, матацыклы, самаходы і фурманкі.

Яшчэ вышэй — лес крыжоў. Могільнік? Не! Няма тут ніводнае магілы. Але кожны, хто мае ў хаце нейкую бяду (а хто-ж яе не мае?) нясе з сабой крыж такой вялічыні, як яго бяда і на які яго стае. Нясуць малыя, поўметравыя — і велізарныя, з цэлага дуба. Крыжы можна і вязці, але лепш нясці. Калі закапаеш такі крыж — дык бяда міне.

Гэтакім чынам вакол Грабаркі стаіць незлічоная іх колькасць — каля 8 — 10 тысяч.

Сонца падыходзіць штораз вышэй, спякота стаецца нязноснай. Ля капліцы такі натоўп, што нават шкада думаць, каб там дастацца. Дзеля таго, зроблены з боку аўтар і там голымі каленьмі паўзуць жанчыны і складаюць ахвяры. Горач, гук пішчалак і манатонны спеў жабракоў — усё гэта схіліла да сну старэнькіх бабулькаў (гл. здымку). Тут поўколам сабраліся знаёмыя і гутараць пра гаспадарку. Дзе-ж можна спаткацца, як не на фэсце? Іншыя абкружылі свянцоную ваду, набіраюць бутэлькамі з сабой, дахаты.

Горач немагчыма. Выходзім з гэтага круга на балота.

Там маладыя хлопцы і дзяўчаты ў невялічкіх гуртках вядуць вясёлыя спрэчкі. А вада, якую наліваюць у шклянкі, зусім непадобная на свянцону, аб чым зрэшты сведчыць і іх вясёлы настрой, і досыць фрывольныя жарты.

Царкоўны звон апавясціў, што Багаслужэнне закончана і адбываецца крэсны ход. З усіх бакоў гурнулі людзі. Кожны хацеў, каб над ім прайшла ікона, каб на яго голаў упала кропля свянцонай вады.

Голаў пры галаве. Цэлае мора галоў. У вачах жар і слёзы.

Гэта нічога, што ўзаўтра зноў пераарэ суседу мяжу, зумысна спасвіць яму канюшыну, абсудзіць і зняславіць на цэлае жыццё, а нават з сякерай кінецца на свайго роднага бацьку, ці брата.

Сёння жарліва моліцца і б'е паклоны, каб адпусціў Бог грахі...

І яшчэ адзін казачны малюнак. У праменнях заходзячага сонца яснее твар свяшчэнніка — богаслужніка, сыплюцца рознакалерныя іскры з брыльянтных і рубінавых камняў імітры. Благасловіць ён народ, гладзіць белыя галоўкі дзяцей...

Пасля гэтага, людзі ўмомант разыходзяцца, лёгка сходзячы з узгорка. Застаюцца іх сляды — новыя крыжы, белыя ручнікі на старых крыжах і засмечаны цвінтар, на якім жабракі



Благаславіць ён народ, гладзіць белыя галоўкі дзяцей...

робяць «рэманент» з фэставага дня.

— «Белы ў торбу, а ты чорны — ў горбу» — смяюцца падпіўшы і выкідаюць кускі чорнага хлеба, на які людзі цяжка працуюць.

* * *

Заразлівыя хваробы медыцына зусім ліквідавала. Засталася яшчэ бяда і няшчасце — неадлучныя спадарожнікі людскога жыцця. А ці застануцца гэтыя спадарожнікі ў Грабарцы разам з закапаным крыжам?...

Так ці інакш, зноў у будзень цяжка распа-



Гэта Варшаўскія «пяцімінутовыя фатографы»...

знаць Грабарку сярод пахіленых соснаў.

Зноў за год прыйдуць тут людзі, пахіленыя пад сваім крыжам - бядой, каб яе закапаць...

І. ВЕРАС
(фото — аўтара)



Зноў за год прыйдуць тут людзі пахіленыя пад сваім крыжам-бядой, каб яе закапаць...

Усякая ўсячына

## Два разы „чварачкі“

9—10 жніўня г. г. сялянка з правінцыі Сантандар у Калумбіі нарадзіла чатыры дзяўчынкі. У тым самым часе ў Фінляндыі прышлі на свет тры дзяўчынкі і адзін хлопчык.

## Рэкорды ў авіяцыі

Малады парашутыст Жан Дубуа пабіў 13 жніўня г. г. рэкорд дакладнасці скоку з парашутам з вышыні 1.500 метраў. Ён прызямліўся раз у адлегласці 1 м 32 см, а другі раз — 6 м 60 см ад вызначанай мэты.

Французскі пасажырскі самалёт устанавіў новы рэкорд хуткасці палёту пасажырскіх самалётаў, праляцеўшы 9.000 км у працягу 16 гадз. 58 мін.

## Хвароба ад добрабыту

Людзі, якім жывецца дрэнна, могуць сябе пацешыць тым, што ёсць і такія хваробы, на якія памірае значна больш людзей, знаходзячыхся ў добрых матэрыяльных абставінах. Гэткай хваробай з'яўляецца склероз. Колькасць выпадкаў смерці ад гэтай хваробы ў багацейшых пабольшваецца з кожным днём. Напрыклад, у Англіі: — калі ў 1928 годзе на кожныя 2.000 людзей паміраў на склероз адзін чалавек — дык у 1954 г. не гледзячы на значны поступ медыцыны памірае на гэту хваробу ў 10 разоў больш.

Найменш памірае на склероз у краінах, у якіх жыццёвы ўзровень нізкі, як, напрыклад, у Японіі ці Італіі, а найбольш у краінах багатых, асабліва ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе памірае на склероз кожны 125-ы чалавек.

## Цуды ў Італіі

Сэнсацыю ў Італіі выклікалі апавяданні ляснога рабочага, які расказваў, што ў аколіцы Рыма ў лесе бачыў зялёнага вужаку даўжынёю 5 метраў, тоўстага, як калода, з вялікімі вушыма, які лазіў па дрэвах.

Жыхар возера Комэ з свайго боку расказваў, што ён бачыў у возеры рыбу даўжынёю 6 метраў, з вогненнымі вачыма, з чубам з чорных пер'яў і хвастом, як у кіта.

Падаючы гэтыя весткі «Юманітэ» дадае, што відаць пануючыя ў Італіі спякоты распалілі людскую фантазію.

## Тэрміты пагражаюць гораду Парыжу

У старым квартале Парыжа, дзе многа драўляных пабудоў з'явіліся тэрміты (вялікія белыя мурашкі). Прывезеныя з цёплых краёў, яны размножыліся ў людскіх памяшканнях.

Тэрміты жывуць вялікімі сем'ямі. Яны точаць дрэва ў сярэдзіне, не кранаючы зверху. Так невідавочна сточваюць дрэва, аж пакуль яно не заломіцца.

Барацьба з тэрмітамі вельмі цяжкая.

Куток гаспадыні

## Як прыгатаваць тамат з памідораў у хаце?

З памідораў можна прыгатовіць на зіму пюрэ. (пюрэ — гэта змолатыя памідоры).

Як гэта зрабіць?

Узяць добра спелыя, цэлыя памідоры, не пабітыя, без плесні. Добра абмыць у халоднай вадзе. Потым кожную разрэзаць нажом на некалькі частак і перамалоць праз звычайную мясарубку (машынка для малоння мяса). Памідаровую масу пакласці ў каструлю (гаршок) і грэць на агні, амаль да кіпення, мяшаючы, каб не прыгарэла. Потым у гарачым стане працерці праз сіта або дуршляк з дробнымі дзіркамі. Выціснуты такім чынам сок, уліць паўторна ў каструлю і паставіць да далейшай варкі, а насенне і скуркі, што засталіся ў сіце, аддаць свіням.

Памідаровую масу другі раз варыцца 45—60 мінут. Пасля варкі пюрэ трэба адразу разліць, у загадзя падрыхтаваную шкляную пасуду. Найлепш падыходзяць старанна вымытыя бутэлькі. Бутэлькі з памідаровым пюрэ, трэба перахоўваць у халадноватым месцы. З памідаровага пюрэ варыцца ўзімку памідаровы суп, выкарыстоўваецца яго як дадатак (прыправа) да капусты і інш.




## 10 запаведзяў усемагутнага алкаголю

1. *Пі гарэлку, каб вечна не быў здаровым.*
2. *Ніколі не пі вады, каб твой розум ніколі не быў чыстым, як вада.*
3. *Пі шмат гарэлкі. Гарэлка зробіць цябе злым і дурным. Кожны дзень ідзі ў «Гасподу». Нічога няма лепшага, як аддаць цяжка запрацаваныя грошы на гарэлку, а самому пасля галадаваць.*
4. *Пі гарэлку, каб не было шчасця і добрабыту ў хаце.*
5. *Калі ідзеш да працы, заўсёды бяры з сабой чвэртку, гэта паможа табе страціць працу.*
6. *На забаве пі толькі гарэлку, інакш цябе біць ня будуць.*
7. *Пі гарэлку пры дзецях. Калі гэтага не будзеш рабіць, твае дзеці могуць вырасці на цвярозых людзей.*
8. *Калі ты шафёр, не забывай у дарозе падзаправіцца гарэлкай, інакш разаб'ецца друзі, а не ты.*
9. *Пі гарэлку днём і ноччу. Забудзеш, што ты чалавек.*

*Калі не маеш грошай на гарэлку — крадзі! Няма ў свеце больш раскошнага кутка, як турма.*

### Канцлер сярод амураў



*Адэнауэр: — Дзетачкі мае! Не забывайце, што Одра і Ныса, гэта спрадвечныя нашыя... польскія рэкі!*

### Цесць і зяць

— Або аддай пасаг, або лепш шануй маю дачку. —

— Я зраблю наадварот: аддам вам дачку, а пасаг буду шанаваць.

## Ліхая баба

Быў селянін і меў жонку: так то, паглядзеўшы і нішто баба, але ліхая, што ратунку няма.

Цярпеў, цярпеў мужык, а ўрэшце надумаў даць навуку бабе і, вось гараўшы ў полі вырэзаў добры дубец і чакае, калі яна яму есці прынясе. Ажно, бачыць, і баба ідзе. Ідзе ды на ўсё поле галёкае, лае мужыка, на чым свет стаіць. Прынесла, паставіла і, пакуль дзед дабраўся адлупцаваць, яна, на злосць яму скочыла з берагу ў амут і ўтапілася.

— Ну і добра, — думае сабе дзед, адным ліхам меней будзе на свеце, і не пашоў выцягаць бабу.

Мінуў год. І зноў, вясной, гарэ той селянін на тым самым палетку, каля ракі. І думае: хоць яна і ліхая баба была, але ўсё-ж такі шкада, што ў амуце тады ўтапілася. Дай, думае, схаджу паўзіраюся хоць на той амут, дзе яна, бедная, Богу душу аддала. І, так сам у сабе разважаючы падыходзіць да таго месца, куды год таму баба скочыла. Ажно чуе, што нехтась такі ў амуце плача і стогне.

— Няйначай баба жыва яшчэ, — падумаў дзед і, чым барджэй пабег па лейцы. Рад у душы дзед, што - такі баба жыва.

— Пэўне-ж яна цяпер і такой ліхой ужо ня будзе...

Прынёс лейцы, закінуў у ваду і чуе, што нехта торгае. Ад радасці і сілаў селяніну прыбыло, цягне, спяшаецца... Аж, выцягнуўшы, глядзіць, што гэта зусім не ягоная баба, а самы істны чорт. А той, бух! на калені перад дзедам і давай дзякаваць, што выратаваў.

— Ад каго я цябе, чорта, выратаваў?

— Ад тваёй-жа бабы: як трапіла яна, год таму назад, у мой ціхі амут, то ў пекла яго абярнула і мяне нават замучыла!

Пачуўшы гэта, пабаяўся дзед другі раз закідаць лейцы ў амут. А з чортам дык і нішто: падружыўся дзед і доўгі час разам поле аралі, пняўё карчавалі і сварыцца нават не сварыліся.

ВЛАСТ

## Сны

*Кожны ведае, што сны бываюць рознымі. Дзяўчаты бачаць сябе ў сне паміж натоўпу прыстойных жаніхоў, з якіх выбіраюць сабе суджанага, бы той гаршчок на кірмашы. Сняцца ім вечарынкі, на якіх кожная чуецца каралеўнай і глядзіць, як абкружаючыя яе кавалеры ад страснага кахання гінуць быццам тыя мухі ад «Azotoxu».*

*Юнакі бачаць у сне матацыклы. Сніцца ім, як імчацца на «Явах» з недазволенай хуткасцю і дарожных кантралёраў не сустракаюць. На небе сонейка свеціць, у лесе траўка сухая, за плячыма матацыкліста сядзіць амаль каханая дзяўчына, і ў юнака ад шчасця сэрца б'ецца ў такт матацыклетнага матора.*

*Людзям старэйшага ўзросту пераважна сняцца цяжкія сны. Такія грамадзяне прачынаюцца апоўначы мокрымі ад поту, доўга раздумваюць над сном, а потым цешацца, што гэты прывід быў толькі сном. Вядома — калі чалавек мае сям'ю, а да першага яшчэ далекавата, то добрым сном не выпадае да такіх грамадзян з'яўляцца.*

*Старыя людзі гатовы зусім не ісці спаць, каб у сне не ўбачыць, як іх пераводзяць у рэнцістаў. На пенсіі з старою не пражывеш, з работай цяжкавата, а дзеці ўжо аб сваіх дзецях клапоцяцца і пра старых мала думаюць.*

*Што тут гаварыць пра людзей, калі мой сабачка ляжыць абаранкай на падлозе, уздрыгвае і ўсхліпвае. Схіляюся я над ім і пераконваюся, што спіць каменным сном. Відаць, бачыць свой страшны, сабачы сон. Або здрадзіла яго суседава сучка, а мо' бачыць, як за зайцам пагнаўся і набег на мядзведзя; а можа бачыць, як яго гыцаль здрадліва схапіў?*

*У суседа раніцаю лямант быў на ўсю вёску. Аказалася, калі сусед спаў, раптам адчуў, як нешта б'е яго па голаму целу, халоднае як лёд і мокрае як шмата. Схапіўся ён са страху, крычаць пачаў — а аказалася, яго прыяцель з рыбы прыйшоў і пад коўдру падклаў жывых ліноў.*

*На тым ужо і свет стаіць — часамі і блізкія робяць нам непрыемныя сюрпрызы.*

Дзядзька Лявонь

## Няхай думаюць



*— Як ты можаш насіць гэты плашч, што нядаўна быў чышчаны бензінам. Смурод ад яго на вярсту!*

*— Тым лепш. Няхай думаюць, што маю сваю машыну.*

### Добрае пажаданне

Паставіла маці на стол гарачую верашчаку. Сын сярбануў, ды так апарыўся, што аж слёзы з вачэй пасыпаліся. Бацька пытае:

— Чаго, сынку, плачаш?

— Што я ў таткі адзін — жаласліва адказвае сын.

Сярбануў верашчакі бацька, ажно вочы на лоб вылезлі. Сын пытае:

— А ты чаго, татка, плачаш?

— Ах, сынок, — кажа, —маю цябе аднаго, але каб і таго даў Бог не аглядаць.

### Падслухана

— Ці добра гатуе страву твая маладая жонка?

— Гатуе то добра, але мне есці цяжка.

### Непаразуменне

— Учора ўлез да нашай хаты злодзей...

— Ці забраў што?

— Не, але прышлося адвезці яго ў шпіталь, бо жонка думала, што гэта я іду з кірмашу.

### Здалося



*— Выбачайце, паважаная! Мне штосьці здаецца, што мы з вамі былі разам ў першай прычасці ў 1871 годзе?*

*— Мажліва, што былі, бо вы нічагусенька не змяніліся — і цяпер вы вельмі дзяцінны...*

### Аматар



*— Гэты малады доктарчык штось часта паглядае на мяне. Відаць, я спадабалася яму.*

*— Усё мажліва — ён-жа вялікі аматар старажытнасці.*

### У школе

— Два без двух, колькі будзе?

Вучань маўчыць.

— Меў у кішэні 2 грошы і ты іх згубіў — што засталося ў кішэні.

— Дзірка.

### Не кахае



— Ён мяне ўжо не кахае!...

—Адкуль табе прышла такая думка ў галаў?

— Даўней ён мяне прасіў цэлага жмута валасоў, а цяпер гневаецца, як знойдзе ў місцы нават маленечкі валасок.

*— Татачка! Ці гэты бусел не паляцеў часамі па сястрычку мне?*

## АДГАДАНКА



Слівы, яблыкі і грушы. Дзесяць сліваў важыць столькі, колькі тры яблыкі і адна груша.

А шэсць сліваў і аднэ яблыка важыць столькі, колькі груша.

Колькі тады трэба палажыць сліваў на адну чашу, каб ураўнаваць іх з адной грушай?

Сярод тых чытачоў, якія да 20.IX. г. г. прышлюць правільныя развязкі будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод. Р.

## Развязка рэбуса з 30 нумара „Нівы“

«З мядзведзям дружы, а за стрэльбу дзяржы».

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:

1) Яўгіня Казлоўская — Гацькі, Бельскага павета,
2) Анастазія Стэпанюк — Новаберазова, Гайнаўскі павет.
3) Мікола Каліш — Монькі,
4) Сцяпан Тыхонюк — Голады,
5) Леанід Ануфрыюк — Паўлы, Бельскі павет,
6) Чэслаў Весяловіч — Острувак, Сакольскі павет,
7) Янка Гурло - Шчэцін,
8) Мар'я Белаказовіч — Відава, Бельскага павета,
9) Вольга Крынчук — Слонім (БССР)
10) Уладзімір Корх — Войшкі, Бельскага павета.

Узнагароды высылаем поштай. Р.

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji: Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25, tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięczna — 2.40 zł, kwartalna — 7.20 zł, półroczna 14.40, roczna 28.80. Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa", Prenumeratę ze zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa. Należność wpłacać na konto PKO I-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty z wysyłką zagranicę wynosi: kwartalnie 10,15 zł, półrocznie 20,30 zł, rocznie 40,60 zł. Druk Białostockie Zakłady Graficzne. Nakład 5.205 T-11